Выдавец:
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

Штотыднёвая газета

vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае

Выдаецца са снежня 1994 года | 17 (525) 29 красавіка 2010 года | Кошт **свабодны**





**На здымку: возера Доўгае.**
*Фота К. Бахіра*

## Òðû íàööàö³ãàäîâàÿ â³öåáñêàÿ ñïÿâà÷êà àòðûìàëà ãðàí-ïðû ¢ Êàçàõñòàíå

■ Марына Паўлава

Дар'я Міхайлава, трынаццацігадовая салістка ўзорнай дзіцячай студыі эстраднай песні «Форум» Цэнтра культуры «Віцебск» атрымала галоўную ўзнагароду восьмага Міжнароднага конкурсу вакалістаў «Залаты мікрафон», які прайшоў у Казахстане.

Дар'я стала лепшым выканаўцам з 71 канкурсанта ва ўзросце да 17 гадоў. Усяго ж у адборачным туры гэтага прэстыжнага міжнароднага конкурсу ўдзельнічалі 300 юных выканаўцаў.

У будучым годзе па традыцыі «Залатога мікрафона» Дар'я Міхайлава ўзначаліць дзіцячае журы конкурсу.

## Ó Â³öåáñêó ì³ë³öûÿ äàïàìàãëà íåïà¢íàãàäîâàìó àäàáðàöü âûéãðûø ó êàç³íî



40 тысяч рублёў выйграў непаўнагадовы віцебскі хлопец у зале гульнявых аўтаматаў.

Адміністрацыя адмовілася выплочваць яму грошы, матывуючы гэта тым, што ён не дасягнуў 18 год.

Але гуляць у аўтаматы хлопцу дазволілі, нягледзячы на тое, што гэта афіцыйна забаронена. Маладзён не разгубіўся і звярнуўся ў... інспекцыю па справах непаўнагадовых.

Міліцыянты прымусілі казіно выплаціць хлопцу грошы і адправілі ў выканкам дакументы аб парушэнні. Калі ў гэтай гульнявой зале яшчэ раз заспеюць няпоўнагадовых гульцоў, ён можа пазбавіцца ліцэнзіі.

## Àí³ìàöûéíû ô³ëüì “ßê Íåñöåðêà ³ Ñïðûäç³ö³ñ ø÷àñöå øóêàë³” ïðýçåíòàâàë³ ¢ Ãëûáîê³ì

■ Алесь Сьнег

**Несцерка і Спрыдзіціс сталі героямі першага беларуска-латвійскага двухмоўнага мультфільма. Прэм'ера адбылася ў Глыбокім. Яго аўтарамі сталі школьнікі з двух дружалюбных гарадоў Глыбокае і Лудза (Латвія) – удзельнікі еўрапейскага праекта “Візуалізацыя латышскага і беларускага фальклору ў фармаванні трансмежнага мастацкага маста”.**

Два дзясяткі юных аніматараў 12-15 гадоў цэлы год працавалі над стварэннем анімацыйнага фільма. Яны прыязджалі ў госці адзін да аднаго, знаёміліся з гісторыяй і культурай, вывучалі абрады і звычаі Беларусі і Латвіі, прыдумлялі сцэнарыі, малявалі эскізы, а потым з дапамогай сучасных камп'ютарных праграм стварылі свой фільм ва ўмовах сапраўднай студыі мультыплікацыі і агучылі яго.

Анімацыйны фільм “Як Несцерка і Спрыдзіціс шчасце шукалі” распавядае пра вандраванне двух хлопчыкаў: латыша Спрыдзіціса у Беларусь і беларуса Несцеркі ў Латвію. Па шляху яны выпякаюць хлеб, лечаць птушак, выконваюць розныя заданні, якія ім даручаюць і пагранічнікі, звяры, і нават жабы. А ў канцы дапамагаюць вожыку і жабе вярнуць сваё праўдзівае аблічча – стаць прынцам і прынцэсай і пажаніцца. Цікава, што ўсе героі фільма размаўляюць на сваіх родных мовах – беларускай і латышскай.

Першымі гледачамі мультфільма сталі аднагодкі аўтараў і, мяркуючы па водгуках, ён ім вельмі спадабаўся і не выклікаў значных цяжкасцяў перакладу. Як і пакладзена сур'ёзным кінематаграфічным працам, фільм будзе прадстаўлены на кінаконкурсе. Журы міжнароднага кінафэсту “Магніфікат”, які штогод праходзіць у Глыбокім, мае быць ацаніць беларуска-латвійскі мультфільм у намінацыі “Анімацыйнае кіно” ўжо цяперашнім летам.

## Ïðàöî¢íû äçåíü ïåðàíåñåíû ç 10 íà 15 ìàÿ

■ *БелаПАН.*

Пастановай Савета міністраў ад 23 красавіка № 607 працоўны дзень перанесены з панядзелка, 10 мая, на суботу, 15 мая, паведаміла прэс-служба ўрада. Арганізацыям дадзена права з улікам спецыфікі вытворчасці пераносіць працоўны дзень "у іншым парадку ў адпаведнасці з заканадаўствам". Сёлета святкуецца 65-годдзе перамогі над фашызмам. 9 мая прыпадае на нядзелю, таму пастанова Саўміна падаўжае святкаванне юбілею.

### Íàäâîð’å ¢ Ãëûáîê³ì

www.rp5.ru

| | чацвер 29.04.10 | | | | пятн.30.04.10 | | | сб. 01.05.10 | | нядз.02.05.10 | | 03.05.10 | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 03:00 | 15:00 | 03:00 | 15:00 | 03:00 | 15:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | - | - |
| Тэмпература, °С | 0 | +6 | +8 | +10 | +8 | +10 | +16 | +9 | +16 | +6 | +19 | +15 | +21 |
| Ціск, мм | 750 | 750 | 748 | 747 | 745 | 742 | 741 | 740 | 741 | 740 | 739 | 737 | 736 |
| Вільготнасць, % | 92 | 69 | 93 | 80 | 97 | 89 | 69 | 89 | 58 | 97 | 78 | - | - |
| Вецер м/сек | Ю 2 | Ю 4 | Ю-З 3 | Ю-З 4 | Ю 4 | Ю-З 7 | Ю-З 6 | Ю-З 1 | З 3 | Ю-В 4 | Ю 5 | Ю 5 | Ю-З 7 |

Ïàñòà¢ñê³ ðà¸í

## Ó àäíûì êðîêó àä “Òýëåâÿðøûí³”

■ Кастусь Александровіч

**Усяго толькі трэці год працуе ў Паставах свая студыя тэлебачання, але яе маладыя, таленавітыя супрацоўнікі ўжо годна заявілі аб сабе на нацыянальным узроўні.**

Летась на рэспубліканскім конкурсе прафесійнага майстэрства “Тэлевяршыня” у адной з самых прэстыжных намінацый “Лепшы рэгіянальны праект года” яны занялі 3-е месца з праграмай “Клопат аб людзях”. Сёлета падалі на прагляд журы сваю штотыднёвую інфармацыйна-аналітычную праграму “Вынікі” і сярод іншых 25 мясцовых тэлеканалаў трапілі ў фінал намінацыі “Лепшая праграма навін рэгіянальнага тэлебачання” разам з калегамі з тэлекампаніі “Віцебск” і студыі “Мазыр-ТБ”. Як зазначыў намеснік міністра інфармацыі Беларусі Аляксандр Слабадчук, праграмы тэлевізіёншчыкаў з Пастаў, што выйшлі ў эфір у 2009 годзе, высокай якасці, рыхтуюцца сучаснымі метадамі паказу інфармацыі. “Вынікі” занялі пачэснае 2-е месца, атрымалі каштоўны падарунак і дыплом 2-й ступені, апярэдзіўшы на конкурсе праграму “Віцебскі веснік”. У гэтай намінацыі перамаглі “Навіны Мазыра”. Дарэчы, неўзабаве колькасць тэлегледачоў у Паставах і не толькі істотна прыбавіцца, паколькі ЧУП “Ультрасетка” запускае эфірны перадатчык і каля сотні каналаў у лічбавым адлюстраванні змогуць прымаць жыхары горада і раёна.

Ãëûáîöê³ ðï¸í

## Ïðûéäçå ÷àñ ³ äà ãëûáà÷àí

■ Чэслаў Якубовіч

**Ужо амаль два дзесяцігоддзі крочыць па ўсёй краіне свята нацыянальных духоўных каштоўнасцей – Дзень беларускага пісьменства.**

У свой час на яго правядзенне прэтэндавала Глыбокае, але месцам урачыстасцей у 2006 годзе былі выбраны Паставы. Але зараз, як пацвердзіў у інтэрв'ю ўрадавай газеце “Рэспубліка” новы кіраўнік Глыбоцкага раёна Алег Морхат, райцэнтр разлічвае, што ў 2011 годзе глыбоцкая зямля, узгадаваўшая нямала слынных асветнікаў і дзеячаў беларускай культуры, гасцінна прыме ўдзельнікаў і гасцей гэтага свята. Адпаведная заяўка падаецца ў сталіцу некалькі гадоў запар. Але тут разумеюць, што для правядзення такіх буйных культурных мерапрыемстваў неабходна добра падрыхтавацца і стварыць адпаведную базу. Пачата ў Глыбокім і неўзабаве будзе завершана рэканструкцыя Дома культуры. У штаце райкамунгаса стаў працаваць ландшафтны дызайнер і запланаваны вялікі аб'ём работ па добраўпарадкаванню старажытнага горада. Для глыбачан на возеры Кагальным пасля яго ачысткі мяркуюць пабудаваць набярэжную з лодачнай станцыяй, а потым і амфітэатр. У раёне распрацаваны таксама новы конны турыстычны маршрут “Залатая падкова” па маляўнічых кутках раёна.

## Äûðýêòàð - ïðàôåñ³ÿ ðûçûêî¢íàÿ

■ Станіслаў Раманчук

**У наш час па якіх толькі схемах ні прыходзіцца круціцца кіраўнікам прадпрыемстваў, каб справіцца з усё ўзрастаючымі патрабаваннямі і прагнознымі параметрамі.**

Але потым усё часцей па розных прычынах іх дзейнасць прызнаецца незаконнай і нават генеральныя дырэктары МТЗ, “Атланта”, падшыпнікавага завода трапляюць за краты. Вось і зараз узбуджаны крымінальныя справы супраць кіраўніцтва амаль 10 буйнейшых хлебапрыёмных прадпрыемстваў краіны, сярод якіх дырэктары і галоўныя бухгалтары Полацкага, Аршанскага і Віцебскага камбінатаў хлебапрадуктаў за быццам вымаўванне крэдытаў. Не сакрэт, што і калгасы гадамі не могуць разлічыцца з дзяржавай за атрыманыя ў лік пастаўак збожжа грашовыя крэдыты. На хлебакамбінатах таксама “вісяць” непагашаныя перад банкамі сумы. Цяпер брыгады следчых Дэпартамента фінансавых расследванняў Дзяржкантролю, адпаведныя службы міліцыі і КДБ праводзяць праверкі дакументаў і іншыя следчыя дзеянні. Уражваюць і аб'ёмы праводзімай работы, бо будуць праверaны дакументы руху летась грошай за зерне ўсяго амаль 350 і дробных прадпрыемстваў, арганізацый, прыёмных пунктаў і філіялаў камбінатаў хлебапрадуктаў.

## Äçåíüçàäí¸ì

**У гэтым годзе абодва беларускія нафтаперапрацоўчыя заводы ў Наваполацку і Мазыры сутыкнуліся з дэфіцытам паставак сыравіны. На абодвух НПЗ загрузка магутнасцей складае толькі каля 70 % і яны працуюць над павелічэннем узроўню перапрацоўкі нафты. Цяпер гэты паказчык дасягае ў Беларусі 70 -72 працэнты, а сусветны ўзровень – 90 -92 %. Чарговая сустрэча прэзідэнтаў Расіі і Беларусі можа прывесці да адмены экспартных пошлін РФ на нафтапрадукты на беларускі рынак, а пакуль паміж саюзнікамі захоўваецца сур'ёзны канфлікт па гэтаму адчувальнаму для айчыннай эканомікі пытанню.**

## Âàæíåéøûÿ íàâ³íû ñâåòó

**Кыргызстан.** Насуперак спадзяванням Расіі новы часовы ўрад краіны паабяцаў ЗША захаваць амерыканскую ваенную базу "Манас", яна служыць для іх войск у Афганістане.

**Кітай.** У бедным горным раёне краіны правінцыі Цінхай адбыўся магутны землятрус, які забраў жыцці тысяч людзей, разбурыў большасць дарог і да 90 % жылых дамоў.

**Венесуэла.** У краіне расце хваля рэпрэсій, пасля крытыкі на тэлеканале рэжыма У. Чавеса ўлады арыштавалі 67-гадовага экс-губернатара А. Паса і дэпутата парламента В. Асухае.

**Балгарыя.** Кіраўніцтва краіны вырашыла прадаць урадавы самалёт Ту-154, які 22 гады перавозіў вышэйшых службовых асоб дзяржавы, пасля гібелі прэзідэнта Польшчы.

**Украіна.** Прэзідэнт В. Януковіч пацвердзіў, што да 2012 года краіна поўнасцю вызваліцца ад рэштkаў свайго высокаабагачанага ўрану і плутонія, іх запасы маюць 38 дзяржаў свету .

**Ісландыя.** З-за вялізных хмар вулканічнага попелу былі прыпынены палёты самалётаў з аэрапортаў Англіі, Даніі, Нарвегіі, Бельгіі, увялі абмежаванні палётаў іншыя краіны ЕС.

**Расія.** Расійскі ўрад У. Пуціна падтрымаў прапановы ўкраінскіх калег аб увядзенні скідак на газ для Украіны, цана на гэта паліва можа знізіцца з цяперашніх 330 USD да 200-245.

**Венесуэла.** Улады выдзелілі для будаўніцтва беларускіх заводаў па вытворчасці грузавых аўтамабіляў МАЗ і трактараў "Беларус" прамысловую зону Санта-Інес карпарацыі PDVSA

**Літва.** Арганізатары міжнароднага фэста музыкі і мастацтваў "Be2qether" пацвердзілі, што беларусы атрымаюць візы бясплатна пры набыцці білетаў і рэгістрацыі на яго сайце.

**Украіна.** Віцэ-прэм'ер С. Цігіпка прапанаваў увесці дадатковыя падаткі пры набыцці багацеямі прадметаў раскошы – яхт, дарагіх аўто, элітнага жылля, самалётаў і верталётаў.

**Індыя.** Адразу 56 чалавек сталі ахвярамі моцнага ўрагану на ўсходзе краіны, вецер страшнай сілы разбурыў дзесяткі тысяч дамоў у штатах Біхар і Заходняя Бенгалія і турму.

**Канада.** Упершыню у свеце выйшаў порначасопіс канадкі Лізы Мерфі для сляпых з тактыльным тэкстам і 17 ілюстрацыямі аб'ёмных малюнкаў аголенай натуры.

**Расія.** Краіна прыпыніла ўсынаўленне расійскіх дзяцей грамадзянамі ЗША, аднаўленне такой практыкі будзе толькі пасля падпісання такой двухбаковай дамоўленасці.

**Украіна.** У Вярхоўнай Радзе дэпутаты апазіцыйнага блока Ю. Цімашэнка заклікалі да адстаўкі прэзідэнта і ўрада краіны за невыкананне абяцанняў павысіць заробкі і пенсіі.

**Аргенціна.** Матчы прадстаячага чэмпіянату свету па футболе дазволілі глядзець школьнікам і студэнтам краіны на занятках у класах і аўдыторыях, каб знізіць колькасць прагулаў

## Ïàäçå³, ïðà ÿê³ÿ ãàâîðûöü Áåëàðóñü

**Мінск.** Урад Беларусі вырашыў прадоўжыць яшчэ на адзін год тэрмін абмену чэкаў "Маёмасць" на акцыі айчынных прадпрыемстваў у аддзяленнях філіялаў Беларусбанка.

**Магілёў.** Супрацоўнікі крымінальнага вышуку аператыўна раскрылі жорсткае забойства двух жанчын, мярзотнікам стаў 40-гадовы беспрацоўны адзінокі гараджанін – п'яніца.

**Мінск.** Па выніках развіцця эканомікі Беларусі ў 1-м квартале 2010 года рост інфляцыі склаў 2,5 %, складскія запасы ўдалося знізіць з 75 да 71 %, узведзена 1,5 млн. кв. м жылля.

**Брэст.** Услед за Пінскам з-за грубага парушэння санітарных правілаў на харчблоку ў школьнай сталовай атравіліся каля 30 вучняў малодшых класаў мясцовай СШ № 7.

**Мінск.** Вядомы айчынны эканаміст Леанід Заіка заявіў, што няма сэнсу ў Беларусі павышаць узрост выхаду на пенсію, у крызіс трэба лепш раней гады за 2 ісці на пенсію.

**Крупкі.** Пасля выпальвання сухой травы трапілі ў рэанімацыю райбальніцы з моцнымі апёкамі цела адразу два вяскоўцы: пенсіянер з вёскі Касенічы і жыхар вёскі Выдрэса.

**Мінск.** Прэзідэнт Беларусі А. Лукашэнка ўсклаў віну за трагічнае падзенне польскага авіялайнера пад Смаленскам і гібель там каля 100 чалавек на галоўнага чалавека на борце.

**Пружаны.** Пры правядзенні трэніровачнага палёту нечакана рухнуў з вышыні 100 м ад зямлі новы дэльтаплан хімсервіса, 46- гадовы пілот загінуў, другі – памёр у бальніцы.

**Мінск.** Федэрацыя прафсаюзаў Беларусі, як паведамілі яе старшыня Леанід Козік, запатрабавала ад урада краіны хутчэйшага павышэння заробкаў у сацыяльнай сферы.

**Брэст.** На беларуска-польскай граніцы ў брэсцкага прадпрымальніка канфіскавалі 43 тыс. USD і 9 тыс. EUR, за спробу правезці кантрабанду яму пагражае і буйны штраф.

**Ганцавічы.** За прысваенне за некалькі гадоў з месца працы ў філіяле "Беларусбанка" 88 млн. рублёў суд пакараў яго работніцу 6 гадамі турмы з канфіскацыяй маёмасці.

**Мінск.** Спыніла сваю працу ААТ "Мотавела", з 5 тысяч работнікаў засталося 1280, узніклі праблемы з выплатай заробкаў, цяжкасці і ў яго ўладальніка – кампаніі ATEC (Аўстрыя).

**Валожын.** Пракуратура раёна распачала крымінальную справу супраць старшыні і галоўнага бухгалтара аднаго з калгасаў, якія за некалькі гадоў скралі амаль 48 тон збожжа.

**Мінск.** Найбольшы рост цэн сёлета ў 1-м квартале года Белстат зафіксаваў на паліва – на 9,5 % і на лекі – на 4,2 %, летась лякарствы ў Беларусі падаражэлі найбольш – на 24,2 %.

**Навагрудак.** На плошчы Леніна ў райцэнтры вырашана ўстанавіць 5-метровы помнік князю Міндоўгу, потым яе перайменуюць і пачнуцца тут работы па аднаўленні замка.

## Ïàíàðàìà¢íóòðûàáëàñíûõ ïàäçåé

**Віцебск.** У параўнанні з мінулым годам пагалоўе дойных кароў на панадворках насельніцтва вобласці скарацілася на 4035 галоў, вяскоўцы старэюць, збываюць рагуль.

**Верхнядзвінск.** На новай поўнасцю аўтаматызаванай лініі масласырзавода пачалі выпускаць навінкі – сыры "Верхнядзвінскі лёгкі", 25 % тлустасці, на чарзе біфідасыры.

**Віцебск.** За няпоўных 4 месяцы на тэрыторыі вобласці адбыўся ўжо 481 пажар, у агні якіх загінула 105 чалавек, з якіх 82 былі п'яныя, а 29 ахвяр – састарэлыя грамадзяне.

**Бешанковічы.** За распальванне бытцам сацыяльнай варожасці з радыёэфіра перад выбарамі знялі запіс выступлення настаўніка, кандыдата ў дэпутаты Георгія Станкевіча.

**Віцебск.** Па рашэнню мясцовых органаў улады ў 14 раёнах Віцебшчыны на ўчастках для галасавання на выбарах мясцовых Саветаў не было ў продажы спіртных напіткаў.

**Орша.** Зарэгістравана "праўладная" кандыдата ў дэпутаты гарсавета Д. Міхалевіча праз некалькі дзён нечакана перакінулі на іншую акругу ў новым месцы горада.

**Дуброўна.** Праверка выявіла, што ў 1-м квартале заробкі "ў канвертах" без ведамасці выдавалі 2 прыватныя фірмы "Вэйланс" і "Сінема-Трэйд", па вобласці – 7 суб'ектаў.

**Віцебск.** Супрацоўнікі мясцовай мытні выявілі тайнік для цыгарэт, абсталяваны ў рэфрыжэратары фуры, на якой з Расіі ў Латвію спрабавалі ўвезці кантрабанды на 200 млн.

**Лепель.** У райцэнтры прайшоў фінальны конкурс саліставу - выканаўцаў VI Рэспубліканскага фестываля народнага фальклорнага мастацтва "Берагіня".

**Віцебск.** Пасольства Польшчы ў Беларусі сардэчна падзякавала кіраўніцтву вобласці за бясплатнае прадастаўленне аэрапорта, аўтобусаў для пасажыраў спецыяльных авіярэйсаў.

**Орша.** Інспекцыя па справах няпоўнагадовых вырашыла прыцягнуць большасць "цяжкіх" падлеткаў горада да заняткаў парашутным спортам у мясцовым аэраклубе.

**Віцебск.** У аўральным рэжыме да цямна ішлі работы па рэканструкцыі да 8 мая гісторыка-мемарыяльнай часткі плошчы Свабоды, якую ўзвялі ў 1974 годзе.

**Шаркаўшчына.** У параўнанні з 2008 годам найбольш на Віцебшчыне павялічылася колькасць зваротаў (на 78,6 %) пакрыўджаных нечым жыхароў раёна ў аблвыканкам .

**Докшыцы.** Па загадкавых балотах праз лясны гушчар пройдзе новы пешаходні маршрут "Тайны запаведнага балота", распрацаваны ў Бярэзінскім біясферным запаведніку.

**Віцебск.** У перапоўненай канцэртнай зале "Віцебск" з вялікім поспехам прайшоў канцэрт папулярнай групы "Белы арол", яго музыканты заўсёды спяваюць без фанаграмы.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

## Лічба нумара

**96** – такі лік ахвяр няданяй жудаснай авіякатастрофы пад Смаленскам, бадай адной з самых найвялікшых трагедый у гісторыі суседняй Польшчы. Увесь свет узрушыла навіна, калі раніцай пры заходзе на пасадку на мясцовы ваенны аэрадром разбіўся польскі борт № 1 з 88 пасажырамі і 8 членамі экіпажа. У гэты момант да ўзлётна-пасадачнай паласы заставалася толькі каля 400 метраў, а хвілін праз 40 у Катыні павінна была пачацца паніхіда на месцы растрэлу польскіх афіцэраў з прамой трансляцыяй на Польшчу.

Падзеі развіваліся так, што раней на гэтым аэрадроме паспяхова прызямліўся самалёт ЯК-40 з польскімі журналістамі, каля 800 чалавек польскай дэлегацыі прыбылі сюды на спецыяльным поездзе. А вось з-за дрэнных умоў надвор'я адбылася новая Катыньская трагедыя. Калі прэзідэнцкі самалёт Ту-154 зачапіўся за высокае дрэва і рухнуў на зямлю, імгненна загінулі не толькі пілоты, але і польскі лідэр Лех Качыньскі з жонкай, кіраўнікі Сената і Сейма, Бюро нацбяспекі, Генштаба, Нацбанка, ваенаначальнікі, дэпутаты, грамадскія дзеячы і вядомыя святары.

Для нашых суседзяў гэта прыватная паездка лідэра краіны мела важнае значэнне ў плане прымірэння, збліжэння і паляпшэння адносін з Расіяй. Пра гэта гавораць знойдзеныя пасля катастрофы лісткі з запісамі выступлення прэзідэнта РП. Лех Качыньскі збіраўся таксама прыехаць 9 мая ў Маскву на святкаванне Перамогі, на якім польскія салдаты пройдуць на парадзе ў калоне саюзнікаў. Таму вопытны пілот капітан Протасюк рызыкнуў садзіцца з другога захода і, на жаль, здарылася бяда. Дарэчы, да гэтага катыньскага лесу мае дачыненне і наша краіна, бо на думку гісторыкаў, чацвёртую частку сярод растраляных польскіх афіцэраў складалі этнічныя беларусы і жыхары Заходняй даваеннай Беларусі.

Увесь цывілізаваны свет у гэтыя дні быў разам з палякамі. Аднак Беларусь аказалася адзінай краінай- суседкай Польшчы, дзе не аб'яўлялася нацыянальная жалоба, хоць у нас жыве не адна сотня тысяч палякаў. На беларускіх тэлеканалах чамусьці выпускі навін пачыналіся з тэмы веснавой пасяўной, а не з жалобнай сусветнай навіны № 1. У смутку была ўся Еўропа, краіны Прыбалтыкі, Расія, бразільцы наогул аб'явілі жалобу на 3 дні. Праўда, у дзень трагедыі служба пратаколу распаўсюдзіла спачуванні беларускага лідэра польскаму народу. Беларускія ўлады дазволілі праязджаць транзітам без віз родным загінуўшых і спецыялістам, бясплатна прадаставілі аэрадром у Віцебску, транспарт і суправаджэнне па дарозе на Смаленск.

Але адмова ад нацыянальнай жалобы была памылкай і яе пастараліся выправіць. У дзень пахавання польскага лідэра ўсе дзяржаўныя СМІ знялі з эфіру забаўляльныя праграмы, што было падобна на жалобу. На цырымоніі яго пахавання з жонкай у Кракаве прысутнічала афіцыйная беларуская дэлегацыя, але на чале са старшынёй верхняй палаты парламента Б. Батурай. Нашага прэзідэнта альбо прэм'ер-міністра сярод 40 замежных лідэраў не было. Беларускі лідэр аддаў даніну памяці ахвярам авіякатастрофы разам з малодшым сынам на памінальнай службе ў сталічным кафедральным касцёле.

У гэты ж дзень Беларускае тэлебачанне паказала знакаміты фільм А. Вайды "Катынь" і на беларускай мове. Раней на канале "РТР-Беларусь" у дзень паказу ў лепшы час на ўсю Расію ён быў зняты з эфіру і заменены забаўляльнай танцавальнай праграмай, што было непрыгожа. Аднак польскае пасольства ў Мінску ўсе жалобныя дні было завалена кветкамі, словы і пачуцці спачування і салідарнасці з палякамі за іх боль перажывалі многія нашы суайчыннікі. Такім чынам, беларусы аказалі маральную і рэальную дапамогу польскаму народу, калі яго спасцігла вялікая трагедыя.

У гэты час адбылося самае галоўнае, што адносіны да бяды пад Смаленскам прымірылі канчаткова рускіх і палякаў. У нас з суседзямі ніколі не было такіх горкіх старонак. Аднак для таго, каб суседняя з намі Польшча для беларусаў стала сапраўды брацкім народам яшчэ належыць зрабіць тым, ад каго гэта залежыць, яшчэ вельмі шмат і многае. У нас ёсць і цяпер добры шанц, для таго, каб наладзіць прадуктыўны дыялог з палякамі, з той жа Еўропай ды і з Расіяй вырашыць існуючыя супярэчнасці, а не шукаць сабе сяброў за трыдзевяць зямель. Толькі ўсе выйграем, калі будзем дружыць і дапамагаць адзін аднаму.

Да 65-х угодкаў Вялікай Перамогі

# Партызанская друкарня

Барыс Манцэвіч,
г. Вілейка, член БСЖ

**У свае няпоўныя 17 гадоў вясковы хлопец з лагойскага раёна Сцяпан Коўзан стаў вучнем наборшчыка ў мясцовай друкарні раённай газеты. Дзякуючы загадчыку Ліўшыцу паралельна асвойваў спецыяльнасць друкара. Так што, калі праз тры гады юнака прызвалі ў рады Чырвонай Арміі, ён верыў: звольніўшыся ў запас ён вернецца на ранейшае месца працы.**

Аднак лёс павярнуўся да ўсіх па-іншаму. У баях пад Смаленскам вайсковая часць, у якой служыў Сцяпан, трапіла ў акружэнне. З баямі, асобнымі групамі, выходзілі з акружэння. Ужо ў лютым 1942 года Коўзан уліўся ў партызанскую групу, што дзейнічала на Смаленшчыне, а потым на Віцебшчыне. Паступова група перарасла ў атрад колькасцю каля 400 чалавек. У чэрвені 1942 года ён быў разгорнуты ў 4-ю Беларускую партызанскую брыгаду. Згодна з загадам Беларускага штаба партызанскага руху ў кастрычніку 1943 года брыгада перадыслацыравалася ў Віцебскую вобласць, дзе дзейнічала ў Мёрскім, Дзісенскім і Шаркоўшчынскім раёнах. У шостым атрадзе брыгады разведчыкам і ваяваў Сцяпан Коўзан. Менавіта ў гэты час яго выклікалі ў штаб брыгады. Задумаўся. Проста так радавога партызана не выклікаюць. “Няўжо што-небудзь адказнае хочуць даручыць?” – думаў камсамолец. А можа я што-небудзь напракудзіў?”

У пакоі сялянскай хаты, што стаяла ў вёсцы Краснае за самаробным столам на лаўцы сядзелі камісар брыгады Фама Расюк, камандзір Мікалай Ярмак і начальнік штаба Аляксандр Плотнікаў. У іх светлых вачах не адчувалася ніякай пагрозы. Сцяпан па-ваеннаму далажыў аб сваім прыбыцці. Камісар першым прыўзняўся з лаўкі і паздароўкаўся за руку. З яго ўзялі прыклад астатнія двое.

– Размяшчайцеся, Сцяпаныч, насупраць нас, - кіўнуў галавой у бок свабоднай лаўкі Расюк. – І мы пачнём вельмі важную для брыгады размову. – І не толькі для брагады, але і для ўсяго Дзісенскага раёна, – дапоўніў Ярмак.

Па–ранейшаму ініцыятыву трымаў камісар:

– Наколькі нам вядома, да вайны ты працаваў у раённай друкарні?

– Так. У Лагойску. Потым служба ў арміі, вайна, выхад з акружэння, пра іх, спадзяюся, вы таксама добра ведаеце.

Хвіліннае маўчанне парушыў камбрыг:

– Засумаваў па мірнай працы?

– А хто па ёй не сумуе? І вы б усе з задавальненнем вярнуліся на свае ранейшыя месцы.

– Яно то так, – цяжка ўздыхнуў камбрыг. Але пакуль не даб'ём паганых фашыстаў, мірнай працы нам не бачыць.

– Вось што, шаноўны разведчык, – раскрыў карты Расюк. Камандаванне брыгады даручыла камісару нелегальнага атрада “Масква” Аляксандры Міхайлаўне Манцэвіч раздабыць неабходнае для адкрыцця падпольнай друкарні. З заданнем яна справілася. Твая задача арганізаваць выпуск лістовак і газеты Дзісенскага падпольнага райкама партыі. Тое-сёе, вядома, табе самаму давядзецца дарабіць. Зможаш выканаць заданне?

– Выканаю, – упэўнена сказаў Сцяпан.

Пазней ён даведаўся. як і з кім праводзіла складаную аперацыю А. М. Манцэвіч. Пад мянушкай Шчаглоў паслала яна ў Глыбокае рызыкоўнага падпольшчыка Івана Фёдаравіча Лакотку, дзе ён узначаліў падпольную антыфашысцкую групу. Лакотка ўвайшоў у давер да савецкага патрыёта Івана Валяр'янавіча Нямірскага, які загадваў нямецкай акруговай друкарняй. Ён і перадаў Лакотку два віды шрыфту (для набору тэкстаў і загалоўкаў), друкарскую фарбу, паперу і вальцовачную масу. Усё гэта праваслаўны святар з вёскі Чэрасы Мёрскага раёна Яўген Канстанцінавіч Багаткевіч коннай фурманкай даставіў да месца прызначэння.

**Раней жа лістоўкі пісалі ўручную, пазней друкавалі на машынцы, якую, будучы ў падполлі, украў у немцаў 15-гадовы сын А. М. Манцэвіч Георгій.**

Вярстачку, г.зн. інструмент для ручнога набору па чарцяжы Коўзана змайстраваў партызанскі каваль Ярмак, два валікі з сасны зрабіў сам, абматаўшы іх шпагатам і заліўшы вальцмасай.

СМЕРТЬ НЕМЕЦКИМ ОККУПАНТАМ Прочитав, передай другому.

**Народный Мститель**

ОРГАН ДИСНЕНСКОГО РК КП(б). БЕЛОРУССИИ.

№ 30 29 мая 1944 года.

ПРИКАЗ ВОЖДЯ ВДОХНОВЛЯЕТ СОВЕТСКИХ ПАРТИЗАН И ПАРТИЗАНОК НА НОВЫЕ БОЕВЫЕ ПОДВИГИ В БОРЬБЕ С НЕМЕЦКО - ФАШИСТСКИМИ ЗАХВАТЧИКАМИ.

**ПРИКАЗ**
**ВЕРХОВНОГО ГЛАВНОКОМАНДУЮЩЕГО**

1 МАЯ 1944 г. № 70 гор. МОСКВА.

Товарищи красноармейцы и краснофлотцы, сержанты, офицеры и генералы, партизаны и партизанки! Трудящиеся Советского Союза! Братья и сестры, временно подпавшие под иго немецких угнетателей и насильственно угнанные на фашистскую каторгу в Германию!

От имени Советского Правительства и нашей большевистской партии приветствую и поздравляю вас с днем 1-го МАЯ!

Народы нашей страны встречают день 1 Мая в обстановке выдающихся успехов [illegible]

саперов, пехотинцев, кавалеристов, разведчиков.

Этим успехам в значительной мере содействовали наши великие союзники, Соединенные Штаты Америки и Великобритания, которые держат фронт в Италии против немцев и отвлекают от нас значительную часть немецких войск, снабжают нас весьма ценным стратегическим сырьем и вооружением, подвергают систематической бомбардировке военные об'екты Германии и подрывают, таким образом, военную мощь последней.

**Фрагмент першай паласы партызанскай газеты «Народный Мститель», органа Дзісенскага РК ПБ (б) Беларусі, № 30 за 29 траўня 1944 г.**

Нескладана было зрабіць і наборную дошку. Накатаеш фарбай зверстаны тэкст з дапамогай валіка, накінеш лямец на шчыльна сціснуты ў рамцы набор, і катай зверху другім валікам. Марудна, але надзейна. Раней жа лістоўкі пісалі ўручную, пазней друкавалі на машынцы, якую, будучы ў падполлі, украў у немцаў 15-гадовы сын А. М. Манцэвіч Георгій.

Так, у 4-й Беларускай партызанскай брыгадзе рэгулярна сталі выходзіць лістоўкі і газета Дзісенскага падпольнага райкама партыі “Народный мститель».

Перад апошняй варожай блакадай (фронт усё набліжаўся) Сцяпан Коўзан друкарскую маёмасць склаў у мех і ўтапіў у сажалцы на хутары Шантарава, дзе і размяшчалася падпольная друкарня. А калі брыгада злучылася з часцямі Чырвонай Арміі, усё перадаў у друкарню дзісенскай раённай газеты: тую друкарню, якую Коўзану давялося і аднаўляць. Праз колькі тыдняў маладога паліграфіста мабілізавалі на фронт. Скончыў вайну ва Усходняй Прусіі. Узнагароджаны медалямі “Партызану Айчыннай вайны 1-ай ступені”, “За ўзяцце Кёнігсберга”, “Ордэнам Айчыннай вайны 2-ой ступені”.

Дэмабілізаваўшыся ў снежні 1946 года, працаваў па спецыяльнасці ў Браславе, а потым у Маладзечанскай друкарні “Перамога”, адкуль на льготных умовах і выйшаў на пенсію ў 1975годзе.

**P. S.** У 2000 годзе, адпачываючы на курорце “Нарач” я і пазнаёміўся з гэтым цудоўным чалавекам. Быў прыемна здзіўлены, калі ён пачаў распавядаць пра 6-ы атрад ЧБПБ, дзе знаходзілася ўся наша сям'я на чале з А. М. Манцэвіч. (Бацькі не было – немцы расстралялі на пачатку вайны). Маці мне неаднаразова расказвала пра стварэнне партызанскай друкарні. “Толькі, – казала – на старасці гадоў прозвішча таго паліграфіста выскачыла з памяці”. І раптам такая сустрэча – сустрэча з Коўзанам Сцяпанам Сцяпанавічам.



**Партызанская друкарня.**

**Здаецца, яшчэ ўчора каталіцкія вернікі Глыбокага са слязмі на вачах развітваліся з маладым ксяндзом Віктарам Місевічам. Яго ссылку ў Бягомль шмат хто расцэньваў як пакаранне за актыўную дзейнасць у глыбоцкай парафіі: прэзентацыі кніг нелюбімых уладамі пісьменнікаў, канцэрты папулярных бардаў у касцёле, якіх, нават, на сельскую сцэну не пускаюць... Ад'езд у Бягомль, гэта – як «хімія» для ўмоўнаасуджаных. Так лічылі амаль усе.**

**Аднак, таленавіты і актыўны чалавек знойдзе і рэалізуе сябе – усюды! І ў Бягомлі...**

**Штотыдзень кс. Віктар Місевіч дасылае нам калі два, а то й тры матэрыялы. То ён са скаўтамі пад Барысавам, то на фэсце ў Гняздзілаве, то гуляе ў пейнтбол пад Глыбокім, а сёння – завітаў у Друю. І як ўсё паспявае здзейсніць няўрымслівы кс. Віктар Місевіч!**

*Ул. Скрабатун.*

# “Рыбакі людзей”

■ **кс. Віктар Місевіч**

З 24 па 25 красавіка ў Друі прайшло малітоўнае чуванне моладзі, якое традыцыйна носіць назву Школа Малітвы. Дэвізам гэтай сустрэчы былі словы “Рыбакі людзей”. З нагоды году святарства арганізатары вырашылі правесці чуванне на тэму Божага паклікання і сакрамэнту святарства. У Друю ў суботні дзень з’ехалася каталіцкая моладзь з розных куткоў дыяцэзіі: з Віцебска, Глыбокага, Шуміліна, Лучая, Варапаева і іншых мясцовасцяў. Іх прыбыло каля 120 чалавек. Многія на такім спатканні былі ўпершыню. Нягледзячы на холад усе актыўна далучыліся да мерапрыемстваў сустрэчы.

Чуванне пачалося працай у групах. Маладыя каталікі абмяркоўвалі разам з аніматарамі сутнасць святарства, яголны Боскі і чалавечы аспект. Сярод актыўна дыскутаваных пытанняў было: як успрымаць і як адносіцца да слабасцяў святароў. Вынікам гэтай працы стаў калектыўны ліст моладзі да святароў, які неўзабаве атрымае кожны святар Віцебскай дыяцэзіі.

На сустрэчу ў Друю спецыяльна з далёкага і цёплага Пінску, не баючыся паўночнай халадэчы, прыехаў беларускі публіцыст і філосаф кс. Андрэй Рылка. Ён выступіў перад моладдзю з канферэнцыяй, на якой прапанаваў прысутным падыскутаваць над з’явай аўтарытэту ў жыцці хрысціяніна.



Моладзевае чуванне багата аздаблялася музычным суправаджэннем, якое арганізавалі маладыя каталікі з Віцебска і Шуміліна. Аднак, канешне, быў час і на ціхую асабістую малітву. У касцёле айцоў марыянаў была магчымасць памаліцца ружанцовай малітвай і прыняць удзел у супольным набажэнстве Тэзэ.

Малітоўнае чуванне ў Друі ўзбагацілі сведчанні маладых святароў, якія дзяліліся перажываннем свайго святарства. Паміж іх выступленнямі гучалі







аўтарскія песні кс. Віктара Місевіча. Моладзь з Шуміліна прадставіла гледачам цікавую пантаміму на тэму барацьбы са спакусамі.

На сустрэчы прысутнічала 7 святароў, таму маладыя вернікі мелі цудоўную магчымасць сустрэцца з Езусам у сакрамэнце пакаяння. Глыбокай ноччу надышоў кульмінацыйны момант чування – Св. Эўхарыстыя. Цэлебраваў Найсвяцейшую Ахвяру а. Міхал Цвячкоўскі МІС, былы пробашч друйскага касцёла. Дзеля сустрэчы з моладдзю ён адмыслова прыехаў з Мінска, дзе цяпер працуе. Слова Божае прамовіў кс. Віктар Місевіч. Падчас казання ён прапанаваў прысутным паразважаць над адносінамі паміж Езусам –Добрым Пастырам, ягонымі слугамі святарамі і авечкамі – народам выбраным.



**кс. Віктар Місевіч з гітарай.**

Пасля св. Імшы і вясёлага адпачынку пры гарбаце адбыўся супольны музычны канцэрт моладзі з Віцебска і Шуміліна. Затым прайшоў Шлях Святла – набажэнства, якое знешне прыпамінае Крыжовы Шлях, але стацыі якога распавядаюць пра аб’яўленні Езуса пасля ўваскрасення.



Малітоўнае чуванне ў Друі закончылася ранішнімі малітвамі і спевам Гадзінак. Пасля снядання маладыя католікі раз’ехаліся па родных парафіях, поўныя надзеі, радасці і аптымізму.

Школа Малітвы ў Друі ўжо каторы год праходзіць, дзякуючы арганізацыйным намаганням а. Тадэвуша Дабравольскага SDS і с. Наталлі Арлянковіч. Шчыры дзякуй ім за руплівую апостальскую працу. Няма сумневу, што Школа Малітвы ў Друі яшчэ неадноічы згуртуе ў сабе каталіцкую моладзь дыяцэзіі.



# Вясновыя палы травы



■ **А.А.Панфілка,**
*інспектар ІДПН Глыбоцкага РАНС капітан унутранай службы.*

Штогод у вясновы перыяд пасля сходу снежнага покрыва рэзка ўзрастае колькасць узгаранняў у лясах і на тарфянішчах, пажарамі знішчаюцца будынкі. 10-12 адсоткаў гэтых пажараў узнікае ў выніку вясновых палаў сухой травы і апалага лісця, іржышча і пажніўных рэштак на палях.

Пра дзейсную забарону на падобныя мерапрыемствы ведаюць нешматлікія. Варта сказаць, што ў Кодэксе Рэспублікі Беларусь пра адміністрацыйныя правапарушэнні прадугледжаны шэраг артыкулаў, якія звязаныя з наступам пажаранебяспечнага перыяду, а менавіта:

**Артыкул 15.29. Парушэнне патрабаванняў пажарнай бяспекі ў лясах ці на тарфянішчах:**

1. Парушэнне патрабаванняў пажарнай бяспекі ў лясах ці на тарфянішчах або забароны на іх наведванне, якое не прычыняе шкоды, – цягне папярэджанне ці накладанне штрафу ў памеры да дваццаці пяці базавых велічынь.

2. Парушэнне патрабаванняў пажарнай бяспекі ў лясах ці на тарфянішчах, якое прычыніла знішчэнне ці пашкоджанне лесу або тарфянішчаў, – цягне накладанне штрафу ў памеры ад дваццаці пяці да пяцідзесяці базавых велічынь.

**Артыкул 15.57. Выпальванне сухой расліннасці, травы на кораню, а таксама ржышча і пажніўных рэштак на палях або непрыняцце мер па ліквідацыі палаў:**

Выпальванне сухой расліннасці, травы на кораню, а таксама ржышча і пажніўных рэштак на палях або непрыняцце мер па ліквідацыі палаў на зямельных участках – цягне накладанне штрафу ў памеры ад дзесяці да сарака базавых велічынь.

**Артыкул 15.58. Распальванне вогнішчаў у забароненых месцах:**

Распальванне вогнішчаў у забароненых месцах – цягне папярэджанне ці накладанне штрафу ў памеры да дванаццаці базавых велічынь.

***

Памылковае меркаванне пра тое, што вясновыя апалы спрыяюць хутчэйшаму абнаўленню расліннасці, штогод прыводзіць да знішчэння велізарных плошчаў тарфянішчаў, лясных масіваў. У Вашых сілах прадухіліць добраахвотнае знішчэнне флоры і фауны нашай краіны. Не станавіцеся закладнікамі чыёйсьці непісьменнасці, беражыце прыроду.

**МНС інфармуе:**
па стану на 26.04.2010
**Віцебская вобласць:**
Пажараў – 549;
Гібель – 117 чалавек (з іх дзяцей няма);
Урон – 1 035 900 000 рублёў;
**Глыбоцкі раён:**
Пажараў – 31;
Гібель – 7 чалавек (з іх дзяцей няма);
Урон – 47 400 000 рублёў.




*Алену Сяргееўну Шчасную*

**Віншуем з 20-годдзем!**

Пусть звезды светятся в глазах твоих,
Пусть счастье, как шампанское, искрится,
Пусть слезы никогда не блещут в них,
И в сердце пусть печаль не постучится.
Пусть этот день, как песня соловья,
Перечеркнет всех хмурых дней ненастье.
Пусть жизнь твоя, как майская заря,
Приносит каждый день на ладонях счастье!

*Таня, Насця, Алеся*

*Алена Сяргееўна Шчасная*

**Дарагая, любімая наша сястра, дачка і ўнучка**
**Віншуем цябе з Днём нараджэння!**

Желаем всегда и во всём успевать,
Усталости, слабости, горя не знать,
Желаем всегда оставаться счастливой,
Весёлой, хорошей, здоровой, красивой.
Пусть солнце тебя в этой жизни согреет,
Господь для тебя пусть добра не жалеет,
Пусть ветер уносит печали и горе
И радости будет пусть целое море.

*Бацькі, брат, бабуля.*

*Чаславу Аляксандраўну Скурат*

**Віншуем з Днём нараджэння!**

Милая, добрая, нежная, славная.
Сколько исполнилось – это не главное.
В жизни желаем быть самой счастливой,
Всеми любимой, весёлой, красивой.
Пусть будет всё, что ты хочешь сама,
Здоровья тебе, веры, надежды, тепла.

*Муж, сыны, нявесткі и ўнукі*

*Наталію Хромаву*

**Віншуем з днём нараджэння!**

Будь самой веселой и самой счастливой,
Хорошей и нежной и самой красивой.
Будь самой внимательной, самой любимой,
Простой, обаятельной, неповторимой,
И доброй, и строгой, и слабой, и сильной,
Пусть беды уходят с дороги в бессилье.
Пусть сбудется все, что ты хочешь сама.
Любви тебе, веры, надежды, добра!

*Ад сям'і Паварэнь і ад мамы*

# Запрашаем на Дударскі фэст (фестываль валынкі)

**19 мая.**

Танцавальная крытая пляцоўка парка Чалюскінцаў.
**18.00 – 22.00**

Гурты: СТАРЫ ОЛЬСА, ZNICH, LITVINTROLL, Testamentum terrae, КЕЙЛІ КЁЛ, РАСАЛІЯ, UNIA і шмат іншых.

**Кошт квіткоў:**
20 000 - папярэдне,
25 000 у дзень канцэрту.

Хто набудзе квіток папярэдне атрымае плакат гурта Стары Ольса ў падарунак!

**Пункты продажу:**
Пераходы Я.Коласа, Кастрычніцкая, Гум, ГЦ Купалаўскі, 19 кропка, ГЦ Рыга, 18 кропка і інш.

Даведкі і замова квіткоў: 6490-888.

*Аргкамітэт.*

# Пад Лаўрынаўкай знойдзены снарады часоў Другой сусветнай вайны

22 красавіка ў 15 гадзін у лясным масіве каля вёскі Лаўрынаўка Глыбоцкага раёна былі знойдзены 4 артылерыйскіх снарады калібра 105 мм, 12 – калібра 75 мм і адзін – калібра 35 мм часоў Другой сусветнай вайны. Боепрыпасы групай размініравання знішчаны, паведамляе прэсавая служба МУС.

# Жыхар Наваполацка падазраецца ў распаўсюдзе парнаграфічных матэрыялаў

У Віцебскай вобласці ўпершыню распачата справа па ч. 2 арт. 343 КК (выраб і распаўсюд парнаграфічных матэрыялаў або прадметаў парнаграфічнага характару з выявай непаўналетняга).

Як паведамілі ў аддзяленні інфармацыі і грамадскіх сувязяў УУС Віцебскага аблвыканкама, супрацоўнікамі аддзела па раскрыцці злачынстваў у сферы высокіх тэхналогій было ўстаноўлена, што з верасня 2009 года 26-гадовы жыхар Наваполацка пры дапамозе хатняга камп'ютэра, маючы доступ да сеткі інтэрнет, распаўсюджваў відэафайлы парнаграфічнага зместу з удзелам непаўналетніх і малалетніх.

Міліцыяй былі сабраныя дастатковыя доказы, каб завесці крымінальную справу па факце распаўсюджвання відэаролікаў, якія змяшчаюць парнаграфічныя матэрыялы. Сам хлопец здымкамі відэаролікаў не займаўся, мяркуецца, што спампоўваў іх з глабальнай сеткі. Яму інкрымінуецца распаўсюджванне дзіцячай парнаграфіі ў адной з файлаабменных сетак у інтэрнэце. Матывы дзеянняў цяпер высвятляюцца. У канфіскаванай камп'ютэрнай тэхніцы выяўлена некалькі соцень відэаролікаў парнаграфічнага зместу.

*Вячаслаў Будкевіч, БелаПАН*

# Студэнтцы далі два гады турмы за «клубнічку»

Паводле «Вечерний Гродно»

**Дзяўчыну пакаралі за размяшчэнне на ўласным блогу фота і відэа парнаграфічнага зместу.**

Па словах следчага Ленінскай пракуратуры Гродна Арсенія Нікольскага, у 2009 годзе дзяўчына стварыла свой блог, куды змясціла восем фота і відэаролік з порна. Усё гэта 22-гадовая гарадзенка знайшла ў Інтэрнэце. Суд прысудзіў студэнтку ўніверсітэта да двух гадоў пазбаўлення волі з адтэрміноўкай: калі на працягу двух гадоў яна не здзейсніць злачынства, адбываць пакаранне не будзе.

# ТЭЛЕТЫДЗЕНЬ "Вольнага Глыбокага"

3 – 9 траўня 2010 г.



## ПАНЯДЗЕЛАК, 3 траўня





**06.00, 07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 13.00 14.00, 15.00, 16.00, 17.00, 18.00, 19.00, 23.55** Новости.
**06.05, 07.10, 08.15** «Доброе утро,Беларусь!».
**07.05, 08.10** Зона Х.
**07.30, 08.25, 11.50** Деловая жизнь.
**08.30** В мире моторов.
**09.05** Nota Bene.
**09.35** «ЗВЕЗДНЫЕ ТАНЦЫ».
**10.50** «OFF STAGE LIFE»
**11.05 «Не родись красивой»**
**12.10 «В сторону от войны»**
**13.45** «Невидимый фронт» (Беларусь).
**14.05** Женское ток-шоу «Жизнь как жизнь». «Я не слежу за модой».
**15.15, 19.15** Новости региона.
**15.25** Видеофильм АТН «Оружие Победы. Могилевщина».
**15.55** Здоровье.
**16.20»Общая терапия»**
**17.30 «Не родись красивой»**
**18.25** Видеофильм АТН «Прости меня».
**18.50, 00.00** «Зона Х».
**19.25** «КЕНО».
**19.30** «Арена».
**19.55** Ток-шоу «Ответный ход».
**21.00** Панорама.
**21.55** «Все это было». Фильм 1-й.
**22.10 «Застава Жилина»**
**00.05** День спорта.





**06.00, 09.00** Наши новости.
**06.05** «Наше утро».
**09.05** Контуры.
**10.10 «Ширли-Мырли»**.
**11.00** Наши новости.
**11.05** Новости спорта.
**11.10 «Ширли-Мырли»**. Продолжение.
**13.00** Наши новости.
**13.05** Новости спорта.
**13.10** «Понять.Простить».
**13.40** «Модныйприговор».
**14.45** VII Национальный конкурс красоты «Мисс Беларусь-2010». Финал.
**16.00** Наши новости.
**16.10** Новости спорта.
**16.15** VII Национальный конкурс красоты «Мисс Беларусь-2010». Финал Продолжение.
**18.00** Наши новости.
**18.15** Новости спорта.
**18.20 «Моя прекрасная няня»**.
**19.00** Жди меня.
**20.00** Время.
**20.30** Наши новости.
**21.00** Новости спорта.
**21.05** Ток-шоу «Выбор».
**22.00 «Остаться в живых»**.IV-йсезон.12с.
**23.00** Наши новости.
**23.15** Новости спорта.
**23.20**«Преступлениявека».
**23.55 «Женаты... с детьми»**.



**00.40** Наши новости.
**00.55-01.10** Новости спорта.





**07.00** ЛАДное утро.
**08.00 «Универ»** (Россия).
**08.30** Час суда. Дела семейные.
**09.25** В этот день.
**09.30** Сериал **«Любовь как любовь»**
**10.30** Документальный фильм «Кристалл души»
**11.10** «Пра мастацтва».
**11.40** Школа ремонта.
**12.35 «Террористка Иванова»** (Россия).
**14.15** Внеклассный час.
**14.35** Бухта капитанов.
**15.15** Телебарометр.
**15.30 «Человек войны»**
**16.20** Час суда. Дела семейные.
**17.25** Простые упражнения
**18.00** Сериал **«Любовь как любовь»**
**19.05 «Люди Шпака»**
**20.05** Белорусское времечко.
**21.10** Монологи о войне.
**21.20** Калыханка.
**21.40 «Универ»** (Россия).
**22.15** Футбол. Чемпионат Англии. Обзор тура.
**23.10** Хоккей. Формула игры.
**23.40** Пляжный футбол. Сборная Беларуси-Сборная ветеранов футбола.





**06.00** «24 часа».
**06.10** «Минщина».
**06.20** «Утро.Студия хорошего настроения».
**07.30** «24 часа».
**07.40** «СТВ-спорт».
**07.45** «Утро.Студия хорошего настроения».
**08.30** «Неделя».
**09.35** «Большой завтрак».
**10.05** «Пять историй».
**10.30** «24 часа».
**10.40** «Ангел-хранитель».
**11.40** «Званый ужин».
**12.35 «Мачеха»**. Сериал.
**13.30** «24 часа».
**13.50** «Звездный ринг».



**15.00** «Большой город».
**15.40** «Горячий лед».
**16.05** «Культурная жизнь»
**16.30** «24 часа».
**16.50** «Добро пожаловаться».
**17.10** «Наше дело».
**17.20** «Минщина».
**17.30** «Званый ужин».
**18.30 «Мачеха»**. Сериал.
**19.30** «24 часа».
**20.00** «Столичные подробности».
**20.10** «СТВ-спорт».
**20.20** «Добрый вечер, малыш».
**20.30** «Кинопонедельник»: **«ЛЮБОВНИК»**.
**22.30** «24 часа».
**22.55**«Столичныйфутбол».
**23.25 «УБИТЬ БИЛЛА 2»**.

БЕЛСАТ tv BELSAT

**17:00** Аб'ектыў
**17:05 «Ранча Піковая Сямёрка»**, 20 серыя
**17:30** Госць «Белсату»
**17:45»Арол: крымінальная сага»**, 16 серыя
**18:40** «Такіх песень сабе шукаю», дак. фільм
**19:15** Гісторыя пад знакам Пагоні
**19:30 «Прыгодыката Філемона»**,мультсерыял
**19:40** Еўропа сёння
**20:05** ПраСвет
**20:20** Блізкая гісторыя: іншыпогляд:«Паранены»,
**21:00** Аб'ектыў
**21:25** Рэмарка
**21:40** Прэс-экспрэс
**21:55** Моўнік
**22:05 «Нявеста пірата»**
**23:35** Аб'ектыў

